№ 21 (137). Вільня, 7 Кастрычніка 1938 г. Год X.




**№ 20 (136) „Šlachu Moładzi" skanfiskavała Vilenskaje Haradzkoje Starastva.**

# Пяе беларускі маладняк

Ніжэй друкуем кароткія інфармацыйныя зацемкі С. Хмары аб маладых беларускіх паэтах—вяскоўцах, якія паходзяць пераважна з паўдзённае часткі нашага краю. Зацемкі С. Х. далёка не абхопліваюць усіх нашых пачынаючых паэтаў. Дзеля таго іншым разам будзем старацца падаць весткі і аб іншых; у сувязі з гэтым усіх маладых бел. паэтаў просім прыслаць нам свае жыцьцяпісы. — Рэдакцыя.

Пяе беларускі маладняк! Ці то ў полі за сярпом, ці то на дарозе з лапатаю. Ці галодны, ці наеўшыся. Ці ў радасьці, ці ў горы, — у бядзе беспрасьветнай выліваецца душа беларуса песьняю. Пяе на вясельлі пад бубен вясёлы і пяе за кратамі...

Пяе беларускі маладняк! Па ўсіх кутках беларускай зямлі грыміць бураю, плача балотнаю кнігаўкаю песьня. Родзіцца яна пад кашуляю зрэбнаю аратага за плугам, пад пастушаю сярмягаю на выгане. Бо шмат у Беларусаў паэтаў, шмат песьняроў. Ідуць песьні, вершы із вуснаў у вусны, із вёскі ў вёскі, з аколіцы ў аколіцу і становяцца народнаю ўласнасьцю.

Ніхто ня знае імя паэта, —
бо імя ягонае: Народ.

Некаторыя мільгануць на бачынах беларускіх часапісаў і зноў заміраюць заціснутыя ў абцугі нядолі, шэрага, беспрасьветнага нідзеньня. — Другія — сілком адарваныя ад роднае старонкі і творства на роднай ніве...

Многа ў Беларусаў песьняроў, паэтаў сялянскіх. Многа талентаў-самародкаў. Не адзін у іншых варунках стаўся-б славаю свайго краю. Сёньня-ж — марнеюць і гінуць. Аб гэтых песьнярох сялянскіх будзе мой рэпартаж.

### Н. Жальба

У Наваградзкім павеце, у адной із вёсак радзіўся пясьняр. На маленькай гаспадарцы расло 4 братоў. Душу паэта залівае жаль, ён апявае сялянскую бяду, жудасныя галодныя будні.

Жальба — сялянская, шэрая, цяжкая жальба.

Быў часова і за кратамі.

Брат памёр ад кулі абшарніка падчас страйку. Сам, каб неяк жыць, пайшоў у прыймы і муза прыціхае.

Друкавацца пачаў у „Крыніцы", „Шляху Моладзі" і інш. Зборніка ня мае, бо няма выдаўца.

Ня гледзячы на жахлівыя абставіны жыцьця, у творах зьвініць бадзёрасьць.

### Анатоль Іврэс

Мастацка апрацаваныя мініятуркі-вершы, — проста ня верыцца, што выйшлі з пад сялянскай рукі.

Іврэс. Пахне штось расейскімі сымбалістамі. Чуваць начытанасьць, культура. Сялянскі інтэлігент. Малады. 25 гадоў. Родам з в. Чамяры ў Слонімшчыне. Вучыўся калісь у беларускай гімназіі. Пасьля этапы і йзноў вёска. Піша і друкуецца з 1932 г. у „Літ. старонцы", „Летапісе" „ШляхуМодзі", „Калосьсі". Зборніка йшчэ ня мае.

Вершы зьвіняць стальлю змаганьня за лепшую долю.

### П. Зьвястун

З сялянскай сям'і з Косаўшчыны. Пачаў пісаць у 25-ці гадох. Друкуецца вельмі рэдка ў бел. часапісах, як „Родныя Гоні", „Летапіс", бо большую частку свайго жыцьця адбывае за мурамі.

Прыймаў удзел у спробе стварыць бел літаратурную групу „Веснаход" у 1928 г., а пасьля ў „Літ. Старонцы". Шмат твораў згінула. Зборніка ня мае.

### М. Ліст

„..Ціха дзед! —
Не нэрвуйся!
Сэрца ўнука — моцны гарт.
Сьлёзы выціраць вазьмуся —
Я
І многа нас.

Пяе ён Беларускаму Народу і сіняму Нёману, над якім у Лідчыне жыве. Але жыцьцё не вясёлае і спутвае рукі не аднаму. Замоўк апошнім часам Ліст.

Друкаваўся ў „Шляху Моладзі" і інш. час. Зборніка ня мае.

### А. Рэдзька

Вельмі плодны малады пясьняр з Віленшчыны. Пачаў друкавацца ў „Бел. Газэце". Пасьля быў у вастрозе. Цяпер дома на вёсцы. Аб сабе гавора:

Мы — скрыўджаных няпраўдай —
струны.

### Прамень

Малады паэт з Зачэпічаў Лідзкага павету. З гэтай-жа вёскі паходзіць Граніт і Струмень,

---

Dr. Jadviha i Stanisłaŭ Hrynkievičy 13)

## Pieršaja pomač pry raptoŭnaj chvarobie.

### Abamleńnie

Čałaviek abamlely bladnieje na tvary i hubach, robicca niaprytomnym, padaje na ziamlu, puls słabieje. Abamleńnie źjaŭlajecca tady, kali da mozhu dapływaje lišnie mała kryvi, abo pry satrasieńni mazhu, abo kali ahułam čałaviek maje słaby dostup pavietra.

*Ratavańnie.* 1) Abamlełaha treba pakłaść tak, kab hałava była nižej, čym korpus (usio cieła). Kali abamlely lažyć na ziamli, možna jaho pakinuć tam lažać, tolki treba pad nohi pakłaść padušku, kab jany byli vyšej, čym korpus.

2) Kali abamlely siadzieŭ na kreśle, dyk treba aściarožna pierachilić jaho, kab kroŭ mahła dajšci da mazhu.

3) Vopratka abamlełaha pavinna być loznaj (volnaj), treba ŭsiudy rasšpilić jaje, dzie tolki jana ściskaje cieła, źniać kaŭnieryk, kravat, zahrudnik, kab kroŭ roŭna ŭsiudy mahła prypływać.

4) Abamlełamu treba dać paniuchać eteru, ci našatyrnaha špirtu. Nia treba davać niuchać z flaški, ale nalić lakarstva na vatu i pryblizić da nosa.

5) Tvar treba spyrskać chałodnaj vadoj, usio cieła raścirać rukami, ci kuskom flaneli. Kali-b chvory dalej kiepska dychaŭ, dyk treba rabić jamu štučnaje dychańnie.

6) Niaprytomnamu čałavieku nia možna davać pić dziela taho, što cieča moža paciačy zamiest horła i stravachodu ŭ dychavicu i abamlely moh-by zadušycca.

7) Kali abamlely viernieсca da prytomnaści, možna dać jamu vypić krychu mocnaj haračaj kavy, vina, vodki ci kaniaku. Music jon adnak dalej lažać ciopła nakryty.

Kali abamleńnie časta paŭtarajecca — treba źviarnucca da lekara, kab niešta paradziŭ. Pryčynaj jaho moža być ahulnaje asłableńnie arhanizmu, chvaroba serca, małakroŭnaść i h. d., a lepš zaŭsiady pačać lekavać raniej, čym lišnie pozna.

Быў час, што задумалі яны выдаць свой зборнік. Да супалкі прынялі Ліста, сабралі грошаў... Аж тут бах! Паўстала пытаньне: што за часапіс, што за рэдактары?.. І кончылася ўся імпрэза...

Прамень пачаў друкавацца ў „Нашай Волі“.

### Пятрусь Граніт

Малады селянін з не малым талентам. Патрабуе, як і ўсе бадай пачынаючыя вясковыя паэты, шліфоўкі. Піша многа вершам, прабуе пісаць і прозай. Друкуецца ў „Шляху Моладзі“, календарох і інш. часапісах. Робіць поступ і, ня гледзячы на цяжкае жыцьцё, разьвіваецца.

### Малады Дубок

Малады хлапец, сын селяніна са Слонімшчыны. Вельмі плодны. З вершаў яго б'е нейкі сум і туга. Няма радасьці, хоць час-адчасу вырываюцца і бунтарныя радкі. Піша. Піша ўсюды. Дзень і ноч. Напісаныя-ж творы трымае за пазухай, бо ў хаце спаляць. Шмат ужо спалілі. Бо-ж маці чула, што за паперкі нейкія людзей бяруць.. А тут у яе сына столькі пісаных паперак!..

Друкаваўся ў „Шляху Моладзі“, календарох ад 1930 г. На зборнік няма выдаўцоў.

### Я. Крыга

Характарызуецца багацтвам абразоў і думак. Шмат абяцаючы талент. Патрэбна толькі шліфоўка.

Наш другі Бядуля. Бо Я. Крыга — жыд зрадніўшыся з беларускаю сярмяжнаю вёскай. Кравец у малым мястэчку Слонімшчыны. Вучыўся пару год у беларускай гімназіі.

Друкаваўся ў „Шляху Моладзі“ і інш. Цяжкія жыцьцёвыя абставіны не даюць паэту шырака займацца літаратурай.

### М. Засім

Паляшук. Паходзіць з Пружаншчыны. Друкуецца ў „Шляху Моладзі“, „Летапісе“ і інш. часапісах. Лірык і сатырык. Падпісваўся калісь: Міколка-Круцёлка. Цяжкая доля не дазваляе шырэй займацца літаратурай. Аб зборніку цяжка думаць.

### Аб сабе

Першы раз у друку ў 1925 г. Рэдакцыя „Крыніцы“ папутала мяне з Жальбай і мой першы верш быў надрукаваны пад яголым псэўданімам. Друкуюся рэдка. „Крыніца“, „Сял. Ніва“, „Наш Голас“, „Шлях Моладзі“, „Летапіс“, „Калосьсе“ і інш. Прычына: вечныя вандроўкі па этапах.

У 1929 г. браў удзел у спробе сарганізаваньня літ. групы „Веснаход“. У 30 г. гіне першы томік вершаў прыгатаваны да друку п. н. „Бунтарнае“, разам з ліквідацыяй Выд. Т-ва „Рунь“. У 36 годзе прыгатаваў новы зборнік вершаў да друку, але абставіны так склаліся, што толькі нядаўна вярнуўся да хаты. Прыгатаваны да друку зборнік ляжыць, а я шукаю выдаўцоў. — Ці знайду?

—o—

Але ня будзем бедаваць!..

Браты! Бліжэй да кніжкі. Часьцей заходзьма ў кнігарні! На бок карчма! Далоў усе перашкоды! Бліжэй брат да брата і да свае роднае беларускае кнігі!.. Тады будуць выдаўцы. Тады песьня наша яшчэ мацней загрыміць, весялей будзе на душы і лягчэй долю горкую знасіць, — да сьвятла ідучы!...

*Сяргей Хмара.*

Казлоўшчына.

* * *

*Ня злуйся, Нёман серабрысты*
*і не хлюпайся ў берагі —*
*ў тваім хвалюючым патоку*
*абмыем мы усе грахі...*

*І зоры вылавім з пад неба,*
*рассыплем сонца па зямлі*
*і закрасуюць зноў палоскі*
*сялянскай беднае ральлі.*

*Свой лёс мы моладзь*
*ў рукі возьмем*
*юргіняй пышна ўквецім шлях —*
*жыцьцё мы новае народзім*
*і доля шчасьцю дасьць размах.*

*Янка Каліна*

## Zmarožańnie

*Ratavańnie.* Zmarožanaha čałavieka treba raspranuć u chałodnym miescy i raścirać usio cieła śnieham, abo hrubymi ručnikami zmočanymi ŭ ściudzionaj vadzie. Paśla treba pieranieści zmarožanaha čałavieka ŭ chałodnuju izbu i dalej raścirać cieła niejkaju suchoju flanelaju. Pakul chvory niaprytomny, dyk treba dać jamu paniuchać etar ci našatyrny śpirt, ci ŭreście anhielskuju sol. Kali chvory nia dychaje — treba zrabić jamu štučnaje dychańnie. Kali chvory zrobicca prytomnym, treba dać jamu napicca chałodnaj kavy ci vina. Z paasobnymi zmarožanymi čaściami cieła treba pastupać tak: raścirać śnieham u chałodnaj izbie: kali-b adnak zmarožanyja čaści astavalisia biaz čućcia, sinimi i da taho pakazalisia-b na ich puzyry—lepš tady nia žduččy źviarnucca da lekara, kab nie dapuścić da gangreny.

## Admarožańnie

Admarožańnie — heta zapaleńnie padskurnaje tkani, jakoje vyklikajecca nizkaju temperaturaju asiarodzišča, u jakom čałaviek znachodzicca. Najčaściej byvajuć admarožanymi kišci ruk, nohi, vušy, nos, adnym słovam tyja čaści cieła, na jakich čałaviek najchutčej adčuvaje maroz. Čaściej heta sprava vystupaje ŭ dziaciej, a z darosłych—u tych, chto chvarejeć na małakroŭje, ludziej chudych, kiepska adžyŭlenych, nervovych.

Pačynajecca admarožańnie tym, što źjaŭlajucca čyrvona-fioletavyja hrudački, huziałki, jakija pavialičvajucca, nadta śviarbiać i balać pry sahravańni. Skura robicca na ich mocna napružanaj, u kancy treskaje, źjaŭlajucca rany, jakija nadta balać i ciažka hojacca. U ciažkich prypadkach u admarožanych miascoch moža cieła abumierci i tady źjaŭlajecca h. zv. gangrena.

U lahčejšaj formie admarožańnia pajaŭlajucca na skury huziałki, jakija viasnoj prapadajuć, ale ŭ kancy vosieni ŭznoŭ vystupajuć.

Dziela taho, što admarožańnie ciažka hoicca i źjaŭlajecca nadta dakučlivaj spravaj — treba bierahčysia, kab da hetaha nie dapuścić.

## 6 z pałavinaju milijonaŭ analfabetaŭ

Sprava aśviety, jak my ŭžo nia raz pisali, źjaŭlajecca badaj najvažniejšaj prablemaj našaha žyćcia. Dyk niachaj nikoha nia dzivić, što ŭściaž ab joj pišam i łovim usie ličby, ilustrujučyja stan školnaje i kulturnaje akcyi, a taksama kolkaść analfabetaŭ — ludziej pazbaŭlenych tych vačej, taho śviatła, praz katoraje možna paznavać śviet, usie źjaviščy i padziei, katoryja dajuć mahčymaść palepšać svoj byt, raźvivacca i jści napierad.

Niadaŭna ŭ Polščy OZN vydaŭ brašuru p. n. „Zagadnienie likwidacji analfabetyzmu w Polsce." Cikavyja ŭ jej pierad usim abličeńni, pavodle katorych u 1937 h. u Rečypaspalitaj było 6.300.000 analfabetaŭ (ludziej, jakija nia ŭmiejuć ni čytać, ni pisać). Da hetaje ličby dachodzić jašče 177 tysiač dziaciej u vieku ad 7 da 9 hod, nie abniatych školaj. Takim čynam usich analfabetaŭ jość **6 z pałavinaj miljonaŭ!** Najhorš adnak toje, što najvialikšaja kolkaść hetych analfabetaŭ prypadaje na h. zv. ŭschod, dzie žyvuć pieravažna biełarusy i ukranicy.

*j. n.*



**Z vudačkami na rybie...**

## 3 цыклю „Ей"

*Не вэсталка...*
*не мадонна...*
*Як назваць цябе? Ня знаю.*
*Сэрца просіць сьветлых тонаў—*
*Я ў жыцьцю —*
*жыцьцё кахаю.*

*Мне-б спаткаць цябе ля клёнаў,*
*Там, дзе сходзяцца дарожкі,*
*Калі ў розсыпі зялёнай*
*Сонца бродзіць басаножкай.*

*Прывітаўшыся на краю,*
*Гразь мяжу падаўшы рукі,*
*Я-б пачуў, што ты — жывая,*
*А ня рэха сноў і думкі.*

*У душы сьвятлянай казкай*
*Ціха песьцячы трывогу,*
*Я-б прасіў-бы неба ласкі*
*Йсьці з табой...*
*аднэй дарогай.*

*І спаткаўшыся вачамі*
*Без аднога слова можа.*
*Пэўна-б я ня спаў начамі*
*З сумам ціхім і прыгожым.*

*І бязсоннай гэтай ноччу,*
*На спатканьне зорцы першай,*
*Стан твой гібкі, стан дзявочы,*
*Апяяў-бы звонкім вершам.*

*І калі-б старая маці*
*Запытала неспакойна*
*Пра юнацкіх дум прычыну, —*
*Сьмела мог-бы адказаці*
*Пра цябе,*
*што ты — ня мроя,*
*а літоўская дзяўчына.*

М. МАШАРА.

Дзікава. „Грэбля". 1938.



1) Adpornaść prociŭ admarožańnia možna vyklikać abmyvańniem całaha cieła chałodnaj vadoj, prynamsia ŭ ciopłyja miesiacy hodu.

2) Pamieškańnie pavinna być davoli ciopłaje, taksama izby, u jakich čałaviek daŭžej pracuje ŭ adnoj pazycyi cieła, prykładam u škole. Temperatura izby padčas zimy nie pavinna mieć mienš 16°C.

3) U chałodnuju poru treba nasić rukavicy, ciopłyja i suchija škarpetki ci pančochi, navušniki, manšety.

4) Lahčej admarožvajucca nohi tady, kali da padtrymańnia pančochaŭ užyvajucca tasiemki, šniurki, padviazki, ci h. zv. bandažy (abviŭki — u vajennych). Nohi ścisnutyja ŭ ciesnych kamašach majuć kiepski kryvabieh i lahčej admarožvajucca. Majučy heta na ŭviecie, dzieciam treba davać rukavicy z adnym palcam.

5) Dziela taho, što ludzi kiepska adžyŭlenyja i chudyja lahčej admarožvajuć cieła — treba kab dzieci zimoj u škole mieli niečaha haračaha źjeści i napicca. Da hetaha treba lekavać u ich małakroŭje.

6) Padčas prabyvańnia na chaładzie, treba často nacirać vušy, nos, ruki — kab lepšy byŭ dapłyŭ kryvi da henych miascoŭ.

*Lekavańnie.* Lekavańnie huziałkoŭ na admžarožanych miascoch, kali skura jšče nia tresnuła, pravodzicca hetak: admarožanyja ruki ci nohi kupajucca kožny dzień u praciahu ½ hadziny ŭ haračaj vadzie, da jakoj dabaŭlajuć na kvartu vady 1 łyžku ałunu ci 1 łyžku voctu. Dobra taksama pamahaje, kali chvoryja miascy cieła mačyć u haračym advary dubovaje kary (2—3 łyžki kary na 1 kvartu vady). Paśla kupańnia treba admarožanyja čaści dobra vycierci i pašmaravać chvoryja miascy naftaj (hazaj) abo vazelinaju ci niejkaju inšaju, čystaju kłustaściu.

Kali adnak skura na admarožanaj čaści treśnie i źjaŭlajucca rany—treba tady źviarnucca da lekara.

U ciažejšych prypadkach, kali ŭsio cieła admarožana — treba pastupać tak, jak pry zmarožańni (hladzi raździeł ab zmarožańni).



# Сьмех праз сьлёзы

(*Успамін з вастрогу**).

Заскрыгаў ключ у дзьвярох, усе прыўскочылі з лавак, а на парозе паказаўся сьвежы чалавек, сьвежы вязень. Уходзіць нясьмела і азіраецца.

— Зашто?! — сыплюцца пытаньні.

—Я, хлопцы, невінават. Дальбог невінават. Нявінна сюды папаў.

— Ну, добра, добра. Хадзі бліжэй, кажы зашто?

Часамі бывае йнакш. Як толькі сьвежы чалавек пакажыцца ў камеры, да яго зараз-жа кідаецца пару вязьняў з крыкам:

— Бі яго, я яго знаю, гэта той, што каня ў мяне ўкраў!

—Браткі, я ні прычым, браткі...

Але яму не даюць гаварыць, а закідаюць сьвітку на галаву, даюць пару штурхачоў пад бакі і пускаюць. У міжчасе адбіраюць ад яго торбу з хлебам. Пакуль той выкупіцца і са страху гляне на камеру, хлеб югоны ўжо плаўна ідзе і закручваецца за шчокамі вязьняў. Гумар папраўляецца. Навічка клічуць далей.

— Хадзі бліжэй, ня бойся, кажы зашто?

— Нявінен, браткі, каб мне. .

— Кінь заліваць, мы ўсе тут невінаватыя, пакажы прыказ сьледаваценя.

А ў прыказе, як вол, стаіць артыкул 225, параграф першы, 226 і інш. вымерываючыя кару за забойства. Вельмі часта пападае арт. 256, 257 і далей. Вечарам пачынаецца споведзь.Вязьні хочуць пасьмяяцца, і шукаюць прычыны. Пад вечар, пасьля пераклічкі, падсоўваюць стол пад дзьверы і накрываюць адзеялам. Сьвежы вязень, змучаны падарожжай, уражаньнямі, хутка засынае. Як толькі добра сьцямнее і начальства пойдзе, камера пачынае жыць. Устае больш бойкі вязень, бярэ чый-небудзь бот, сядае пад стол накрыты адзеялам, укладае вусны ў халяву бота і, прысунуўшыся бліжэй да дзьвярэй, кліча навічка. Той-жа з прасоньня ня ведае што рабіць. Таварышы на пасьцелі кажуць, што гэта выклікае пракурор на допыт. Вязень верыць. Хутка прыбліжаецца да дзьвярэй і пачынае адказваць. Першыя пытаньні бываюць па справе, а пасьля — дзеля пацехі. Камера тымчасам слухае.

— А ну Іван, пакажы што ты ўмееш, затанцуй — кажа „пракурор". І Іван, нічога ня кажучы, пускаецца ў гулі.

Усе на нарах пад адзеялямі аж уміраюць са сьмеху. Пасьля „танцаў" Іван сьпявае. Дзіўна гэта выглядае. Недзе далёка чуваць шагі вастрожнага наглядчыка, а ў камеры разлягаецца сьпеў рамансаў:

„В кадетском я саду гулял,
Красоткай наслаждался
В тюрму железную попал,
Чего не сподевался".

Часам бывае інакш. „Пракурор" кажа Івану ўзлезьці на вакно і забрахаць сабакам. І загад спаўняецца. Быў у камеры такі „Іван", каторага пад-рад тры дні дапытвалі і сьмяяліся, і каторы ніяк ня мог дагадацца, што з яго сьмяюцца. Калі ўжо даволі насьмяюцца, „пракурор"звальняе Івана.

— Заўтра — кажа — як толькі будзеш ісьці на прагулку, бяры свае рэчы і выходзь. Іван думае, што гэта праўда. Але яго зразу агарошвае наглядчык:

— Ты куды?

— Мяне пракурор звольніў.

— Вярніся, дурны.

Іван ня ведае спачатку ў чым справа і толькі ў камеры пасьля яму выясьняюць. Але на гэтым не канчаецца „хрышчэньне" Івана. На другую ноч яго вучаць езьдзіць на ровэры. Утыкаюць яму паміж пальцаў кавалкі паперы і запальваюць. Як толькі агонь прыпячэ — Іван пачынае перабірэць нагамі і гэта робіць выгляд язды на ровэры. Камера ў гэты час пакладаецца ад сьмеху. Іван зрываецца, як апараны, пот льецца з яго твару, дрыжыць і гасіць агонь між пальцаў. Пасьля яго„фатаграфуюць,"вучаць„лётаць"і другіх штукаў. Калі нявінныя кавалкі мінуць, Іван пазнае новыя штукі— „рэжа дуба", „хавае бабу", „аркестру перавозіць", „грае ў чорта" і г. д. Апошнія гульні зьвязаны з боем, а за прыладзьдзе бою служыць скручаны на вяроўку ручнік. Не адзін сіняк астаецца на бедным целе Івана. Але ведама „навука" нідзе не даецца дарма, за яе трэба плаціць. І Іван плаціць датуль, пакуль не надыйдзе новая ахвяра, бо тады ўжо Іван становіцца „вучыцелем". І так паўтараецца без канца гэтая „навука", праз якую праходзіць, на жаль, значны працэнт нашай вясковай моладзі.

*П. З.*

*) Аўтор гэтых успамінаў, малады беларускі інтэлігент з вышэйшай асьветай, шукаючы шырэйшых магчымасьцяў працы для дабра Беларускага Народу, пазнаў ужо жыцьцё ў вастрозе савецкім, а пасьля і ў польскім. Прыходзілася яму сядзець з рознымі людзьмі, а нават і з крыміналістамі, абразок з камеры каторых падаём тут.
Рэд.

# 12 žyćciovych praviłaŭ Benjamina Franklina

Benjamin Franklin (1706—1790), vialiki amerykanski palityk i vučony (choć nia mieŭ školnaje aśviety), dy adzin z tvarcoŭ kanstytucyi Złučanych Štataŭ Paŭnočnaje Ameryki, ułažyŭ 12 nastupnych praviłaŭ žyćcia:

1. **Miera** — nia jež da pierasytu; nia pi da padchmialeńnia.

2. **Maŭčańnie** — havary tolki toje, što moža pryniaści karyść inšym abo tabie; vyścierahajsia drobnieńkich hutarkaŭ.

3. **Ład-paradak** — niachaj kožnaja tvaja reč maje svajo miesca, i kožnaja čaścina tvaje pracy svoj čas.

4. **Pastanova** — pastanaŭlaj vykonvać toje, što pavinien; nieadkładna vykonvaj toje, što pastanaviŭ.

5. **Aščadnaść** — vydatki rabi tolki dla dabra inšych abo dla svajho ŭłasnaha i ničoha nie marnuj.

6. **Pracavitaść** — nia trać času; zaŭsiody budź pry jakoj-niebudź karysnaj pracy; abminaj usiakuju niepatrebnuju rabotu.

7. **Ščyraść** — nie karystajsia škodnym abmanam; dumaj niavinna i spraviadliva, i hetaksama havary.

8. **Spraviadlivaść** — nie rabi nikomu zła, ci kryŭdy, ci ŭciakajučy ad dobrych čynaŭ, da jakich ty abaviazany.

9. **Pamiarkoŭnaść** — abminaj krajnaści; strymlivajsia ad złości i abrazy na hetulki, na kolki, na tvaju dumku, jany na heta zasłuhoŭvajuć.

10. **Čystata** — nie dapuskaj niečystaty cieła, adzieży i pamieškańnia.

11. **Supakoj** — niachaj nie chvalujuć ciabie drabnicy, abo zvyčajnyja ci niaminučyja vypadki.

12. **Našleduj Chrysta i Sokrata** (hreckaha mudraca z V-ha stahodździa da naradžeńnia Chrysta).

Uvodźma-ž hetyja pryhožyja pravily ŭ našaje štodziennaje žyćcio!..

# Z biełaruskaha žyćcia

**Śviatkavańnie jubileju chrostu Biełarusi.** U česć prypadajučaha sioleta jubileju 950-cihodździa chrostu Biełarusi, u niadzielu 2-ha kastryčnika ŭ kaściele św. Mikałaja ŭ Vilni adbyłosia ŭračystaje nabaženstva. Słužbu śviatuju, pavodle ŭschodniaha abradu, adpraviŭ małady biełaruski hreka-katalicki śviaščeńnik Michał Maskalik, katory sioleta končyŭ studyi i atrymaŭ paśviačeńnie ŭ śvietary ŭ Miunchenie (Niamieččyna). Paśla evanelii hłybokaje i pryhožaje kazańnie ab značeńni chryścijanstva dla Biełarusi i ahułam dla kultury i dabra ludzkaści skazaŭ Ks. Adam Stankievič. Pa zakančeńni nabaženstva koratka pramoviŭ da šmatlika sabranych biełarusaŭ a. M Maskalik, jaki šyraka sam pracavaŭ užo na bieł. kulturnaj nivie i ciapier zaklikaŭ usich da hetaje pracy pavodle Chrystovaje navuki. Uračystaść zakončana była biełaruskim relihijnym himnam „Boža, što kaliś narody.“ — Dziela ŭšanavańnia jubileju chrostu Biełarusi ŭvažajem, što treba tak-ža naładzić adpaviednuju ŭračystuju publičnuju akademiju.

**Kanfiskata „Wiadomości Białoruskich.“** 5.X Wil. Haradz. Starastva skanfiskavała № 10 biełaruskaha infarmacyjnaha biuletynu „Wiadomości Białoruskie“ za zaciemku „BNA i vybary.“

**Kanfiskata „Chryścijanskaje Dumki“ i „Zorki.“** 29.IX siol pa zahadu Vilenskaha Haradz.Starasty skanfiskavany № 27 „Chryścijanskaje Dumki“ za cały rad artykułaŭ, a taksama biełaruski časapis dla dziaciej „Zorka“ № 8, jaki vychodzić jak dadatak da „Chr. Dumki.“ Paśla kanfiskaty „Chr. D.“ vyjšła badaj na pałovu z biełymi plamami.

**Studencki dadatak.** Nastupny № 21 „Šlachu Moładzi“ vyjdzie z studenckim dadatkam.

**Kanfiskata Kamunikatu BNA.** 6.X.38 Vilenskaje Haradzkoje Starastva skanfiskavała Kamunikat № 8 Biełaruskaha Narodnaha Abjednańnia — BNA.

**Sud nad redaktaram „Šlachu Moładzi.“** 26.X. siol. u Vilenskim Akružnym Sudzie budzie razhladacca sprava redaktara „Šlachu Moładzi“ J. Najdziuka abvinavačanaha ŭ spravie adnaje z kanfiskataŭ „Šlachu Moładzi.“

**„Беларускі Адрыўны Календар на 1939 год.** Užo vyjšaŭ z druku i pajaviŭsia ŭ pradažy „Беларускі Адрыўны Календар на 1939 г.“ Žmiest jaho vielmi cikavy. Šmat u im jość roznych cennych radaŭ, pryhožych vieršaŭ, śmiešnych žartaŭ, cikavych viestak i inšych cennych matarjałaŭ. Kalendar hety maje dva styli: novy (katalicki) i stary (pravasłaŭny). Nadrukavany hraždankaju (ruskimi litarami). Padany ŭ im tak-ža i pradkazańni pahody. Cana 1 kalendara 50 hr. Chto kuplaje bolšuju kolkaść kalendaroŭ atrymlivaje vialikuju škidku. Pry tym, chto kupić biełaruski kalendar, toj maje vialikuju škidku na biełaruskija knižki. Hałoŭny skład u biełaruskich kniharniach u Vilni.

**DA VIEDAMA BIEŁARUSKICH STUDENTAŬ: Biełaruski Studencki Sajuz mieścicca: Vilnia, Zavalnaja vul. 1—2 (pry drukarni). Dyžury adbyvajucca štodzień ad hadz. 18.30 da 21.**

## Дзяўчыне

*Што сукенкі, скажы, варты*
*І нашто шмат шыць?*
*Здабыла-б ты трохі гарту*
*Для сваей душы.*

*Толькі шоўкі, ды батысты*
*Й нешта там яшчэ...*
*А на сьвет пагляд імглісты*
*Й ледзьве ён цячэ.*

*Ня шукай бяды прычыны*
*У вайне, Жыдох —*
*Беражы імя дзяўчыны.*
*Не зваліся з ног.*

*Абы чэсна, ды і годзе!*
*Што там вымагаць...*
*І ў сукенцы не па модзе*
*Можна працаваць...*

*І працуеш... на сукенкі*
*Ды на бліскуны,*
*Хочаш выглядаў „паненкі“,*
*А нашто яны?*

*Ганна Новік.*





V o s i e ń.

## Дажынкі ў Вільні

У нядзелю 25 верасьня сёл. у Вільні на пляцу, дзе адбываўся IV Паўночны Кірмаш, Віленская Зямельная Палата ладзіла пры помачы вясковай моладзі дажынкі з нагоды 10-лецьця акцыі землеробскага прыспасабленьня ў Віленшчыне.

Пасьля паклонаў ваяводзе і патрыятычных прамоваў, адбываліся сьпевы, танцы і прадстаўленьні. Трэба адзначыць, што хоць ладзіла і выконвала дажынкі моладзь з беларускіх вёсак, то аднак па загаду і пад кіраўніцтвам розных польскіх інструктароў пяяла свае беларускія народныя песьні бадай толькі папольску, як напр. „Лецяла кукулка“, „Пуйдзеш замонж“ і інш. На даволі абшырную праграму моладзь прапяяла пабеларуску толькі адну адзіную песьню і пара прыпеўкаў. Характэрна, што праз увесь час канцэрту ня было сказана ані слаўцом, што гэта беларускае. Нават ня была абвешчана Лявоніха, хоць была адтанцавана і хоць шматлічная публіка гучна яе выклікала, дамагаючыся так-жа беларускіх песьняў.

Іначай „крыху“ выглядаюць беларускія дажынкі ў нашым краі без апекі паноў інструктароў з „Звёнзку Млодэй Всі“ і яму падобных арганізацыяў. На вёсцы родная беларуская песьня разлягаецца ў беларускім языку. І плывуць родныя словы аб сьвеце, што сьвітае, аб долі вёскі, Нёмане рацэ, якога ніхто не стрымае і над хвалямі якога снуе думкі свае беларускі маладняк...

*Чік.*






— Цёмныя хмары, якія грозна павісьлі над **Чэхаславаччынай**, паволі расходзяцца. Хоць, аднак, буры і гарматніх пяруноў ня было, Чэхаславаччына моцна пацярпела. Найбольш грозным часам былі дні 25, 26 і 27-га верасьня, калі Гітлер даў Чэхаславаччыне ультыматум і час да 1.X.38 вырашыць згодна з яго воляй справу **судэцкага краю**, г. зн. аддаць яго **Нямеччыне**. У Чэхаславаччыне змабілізаваны ўсе сілы, змабілізаваная была так-жа армія **француская і ангельская**. Вайна вісела на валаску. Але на прапазыцыю Францыі, за пасярэдніцтвам ангельскага прэм'ера Чэмбэрлена, дыктатар **Італіі** Мусоліні зьвярнуўся да Гітлера і паразумеўшыся рашылі склікаць у Мюнхен (Нямеччына) канфэрэнцыю 4-х дзеля таго, каб не дапусьціць да вайны. 29.IX.1938 зьехаліся у Мюнхен прадстаўнікі чатырох найсільнейшых гаспадарстваў: ангельскі прэм'ер Чэмбэрлен, францускі прэм'ер Даляд'е, Мусоліні і Гітлер, дагаварыліся і пастанавілі адну частку Судэцкага краю 1.X. аддаць Нямеччыне, а пасьля да 10.X наступныя 3 часткі. На рэшце тэрыторыі Судэцкага Краю пад апекаю міжнароднае камісіі адбудзецца плебісцыт і пасьля будзе вызначана дакладная чэска-нямецкая граніца. Справа дамаганьняў **польскіх і вугорскіх** урадаў, каб тыя часткі Чэхаславаччыны, дзе жывуць Палякі далучыць да Польшчы, а тыя дзе жывуць вугры—да Вугрыі, адложаны і даручана заінтэрэсаваным гаспадарствам вырашыць самым беспасярэдна, або яе вырашыла-б наступная канфэрэнцыя 4-х прэм'ераў. Але ўжо 30.IX польскі ўрад выслаў чэхаславацкаму ўраду ультыматыўнае дамаганьне аддаць Польшчы Сьлёнск Цешынскі, на што Чэхаславаччына згадзілася і 2.X польскае войска зачало займаць адданыя Польшчы абшары. У некаторых мясцох адбудзецца йшчэ плебісцыт.

Канфэрэнцыя ў Мюнхене дала Нямеччыне вялікае задаваленьне і прыблізна 15.000 кв. клм. тэрыторыі з 3 міліёнамі насяленьня. Польшч-жа дастала ад Чэхаславачыны 800 кв. клм. з 250 тысячамі насяленьня.

Усьляды Польшчы ідзе **Вугрыя** і яна так-жа дамагаецца ультыматыўна даць ёй частку тэрыторыі сучаснае Чэхаславацкае Рэспублікі.

**Украінцы**, якія жывуць у **Чэхаславаччыне** на Прыкарпацьці ў ліку каля 700.000 асоб, дамагаюцца самаазначэньня і хочуць стварыць пачатак незалежнага Украінскага Гаспадарства.

Востра ставяцца да **Чэхаў і Славакі**. З гэтае прычыны 4.X у Чэхаславаччыне адбылася рэканструкцыя ўраду ген. Сыравага. Мін. Чэрнак — славак падаўся у адстаўку, выйшлі так-жа і іншыя міністры, а ўвайшлі новыя. 5.X пайшоў у адстаўку і прэзыдэнт Бэнэш. Чым усё кончыцца— цяжка прадбачыць.

Агулам аб **Канфэрэнцыі ў Мюнхене** кажуць, што яна ня толькі заламала палітычную будову Чэхаславаччыны, але такжа ўплывы Парыжа, Лёндыну і Масквы ў сярэдняй Эўропе. Даляд'е і Чэмбэрлен ўратавалі мір, але не надоўга. Некаторыя ангійскія палітыкі кажуць, што мір ўратаваны толькі на 6 месяцаў. Уплывы Нямеччыны і Італіі растуць, хоць яны быццам на Канфэрэнцыі ў Мюнхене абяцалі Францыі і Англіі адклікаць сваіх „ахвотнікаў“ з арміі ген. Франко ў Гішпаніі.

На **Далёкім Усходзе, у Палестыне і Гішпаніі** крывавая барацьба ня сьціхае і адбываецца бяз большых зьменаў. У Гішпаніі, паводле найнавейшых вестак, думаюць, быццам, аб замірэньні.

— **Гітлер** запрапанаваў быццам **Літве** заключыць дагавор аб ненападаньні на 15 гадоў з тым варункам, што Літва перагледзіць свае гандлёвыя дагаворы з Англіяй і свае прадукты будзе дастаўляць Нямеччыне, у замен купляючы нямецкія прамысловыя тавары.

— У **Літве** адбылася частковая зьмена ўраду, зьмены аднак у палітыцы не прадбачыцца.

— На граніцы **савецка-манджурскай** паўстаў новы японска-савецкі канфлікт, пакуль-што аднак ня прыймае ён грознага характару.

*jп.*




### Пашыраймо коопэрацыю

*Мір, Нясьвіжскага пав.* Надходзяць доўгія васеньнія, а пасьля зімовыя вечары. Людзі на вёсцы будуць мець многа свабоднага часу, які пераважна марна праходзіць на пустых гутарках і плётках. Многа за гэты час будзе вылівацца скаргаў на цяжкі быт, а зусім мала хто будзе шукаць выхаду з цяжкага палажэньня. Дзеля таго свабодны час трэба выкарыстаць на тое, каб бліжэй пазнаёміцца з коопэрацыяй, абгаварыць гэтую справу і закладаць коопэратывы, каторыя пры добрай пастаноўцы могуць многа нам памагчы змагацца з бядою. Дык знаёммася з коопэрацыяй і пашыраймо яе, асабліва мы, маладое пакаленьне!

*Малады коопэратар.*

### Hołas lasnoha rabotnika

*v. Sucbiničy, Dubienskaj voł., Horadzienskaba pav.* Uvosieni 1937 h. uziali my ŭ kazionnym lesie dzialanki, katoryja abaviazalisia vyrabić, dastajučy za heta płatu ad vyrabatku, napr. za 1 fesm. jołki tavarnaj 80 hrašoŭ, za 1 $m^3$ apałovy biaz reźnicy 80 hr. i h. d. Adnak-ža, ŭziaŭšysia za pracu, razhledzilisia, što za takuju płatu niemahčyma pracavać i pačali prasić u laśničaha M. Viarbickaha dabaŭki, ab katoraj jon nie chacieŭ i havaryć, adsyłajučy nas da nadlesnaha, kažučy, što jon sam dabaŭki ŭ cenach zrabić nia moža. Parazumieŭšysia miž saboj, pajšli my ŭsiej rabočaj hramadoju da nadlesnaha, a pa darozie, praz cikavaść, zajšli pahladzieć da inšaje hrupy lasnych rabotnikaŭ. Nie prajšło adnak i 20 min., jak nalacieŭ tudy z hajovymi laśničy M. V. i zahadaŭ papisać nas jak „podburzycieli da strajku,“ zakidajučy nam roznyja niabylicy. Mnoha było šumu, ale ŭsio-ž laśničy abiacaŭ dać dabaŭku pa 20 hr. na $m^3$ apału i inš. Z hetym pajšli my da raboty i dzialanki vykančyli tak, jak treba było. Kali ž dajšło da razpłaty Viarbicki, zajaviŭ, što jon nijakaj dabaŭki nie abiacaŭ i zapłaciŭ pa staroj umovie. Mała taho, 6 vieraśnia sioleta Haradzki Sud u Škidlu razhladaŭ spravu rabotnikaŭ abvinavačanych na asnovie danosu laśničaha, za padbureńnie da strajku i 6 rabotnikaŭ zasudziŭ pa 1 miesiacy aryštu, a 3 pa 3 mies. aryštu. My adnak ad prysudu hetaha padali apelacyju ŭ Horadniu. Budziem tak-ža sudzicca z laśničym za niedatrymańnie abiacanaj dabaŭki, vieračy, što spraviadlivaść pieramoža.

*S. Kr.*

### Biaremsia za knižku i aśvietu

*v. Skarby,* Ščučynskaha pav. U Skarbach mała jość moładzi, a j taja, što jość, nia jdzie, na žal, kulturnym šlacham, nia dumaje ab kulturnym žyćci. Dumaje-ž ab tym, kab čaściej vypić harełki i paśla dureć. Heta-ž jość adna z vialikich pryčynaŭ, što ciažka nam žyviecca, što ničoha my nia znajem i nia viedajem. Lepšaje žyćcio, lepšy byt budzie tady, kali my zdabudziem aśvietu, kiniem pić harełku, kuryć tytun, voźmiemsia za kulturnuju pracu i budziem damahacca naležnych nam pravoŭ. Dyk nie marnujma času, biaremsia za knižku, za svaju biełaruskuju hazetu i vučemsia! Kožnamu-ž našamu małomu chłopcu ci dziaŭčynie treba dać u ruki biełaruski lemantar.

*M. Lebiedzievič.*



**240 asob pamiraje štodzień na suchoty ŭ Polščy.** Apošnim časam u polskaj presie, miž inšym, padrobna było razhladanaje strašnaje žnivo suchotaŭ. Pry tym vyjaviłasia, što, jak daśledzili dachtary Grodecki i Silicki, u Polščy kožny dzień pamiraje ad chvaroby na suchoty 240 asob. A viedama, što suchoty paŭstajuć najčaściej tam, dzie biada, brud i niedachop dobraha adžyŭlańnia. Na suchoty chvarejuć pieravažna rabotniki i sialanie. Dyk šanujma zdaroŭje i zmahajmasia z brudam i biadoj.

**100-hodździe žniajarki.** Sioleta minuła 100 hod ad taho času, kali (ŭ 1838 h.) małady ziemlarob Mek-Kormik u Złuč. Štatach Paŭnoč. Ameryki vydumaŭ mašynu-žniajarku.

**1800 asob zhinuła ad samachodaŭ.** Za druhi kvartał 1938 hodu ŭ Niamieččynie zhinuła ad samachodnych katastrofaŭ 1800 asob.

**14 milijardaŭ dalaraŭ na zbrajeńnie.** Amerykanskaja hazeta „New Jork Times“ padličyła, što na zbrajeńnie śviet vydaje kožny hod 14 milijardaŭ dalaraŭ.

**Miesiac polskaje sacyjalistyčnaje moładzi** ładzili sioleta polskija sacyjalisty ŭ vieraśni. Z hetaje pryčyny adbyłosia šmat źjezdaŭ, jakija pakazali što kadry maładych polskich sacyjalistaŭ pavialičvajucca.

### Paštovaja skrynka

**Paŭłu R—ku:** Vašyja vieršy niavyraznyja ŭ dumkach, zaputanyja i niavytrymanyja ŭ raźmiery i ryfmie. Pracujcie nad paznańniem techniki vieršavańnia, čytajcie biełaruskich klasykaŭ, a moža z časam udasca Vam pisać vieršy, katoryja nia buduć vymahać hruntoŭnych papravak tak jak ciapier.

**J. Barył.:** „Šlach Moładzi“ vysyłajem akuratna i prosim damahacca na pošcie.

**A. Заранку:** Падпіску і вершы атрымалі. Будзем друкаваць. За ўсё шчыра дзякуем.

**A. Гацуры:** Прысланыя вершы перад усім задоўгія, ня вытрыманыя ў разьмеры і ня пройдуць праз цэнзуру, дзеля таго ня можам іх надрукаваць. Просім аднак не забываць аб нас.

**M. коопэратару:** Карэспандэнцыю друкуем і просім пісаць часьцей.

**Я. Красавіку:** Вершы атрымалі, нішто-сабе, але патрабуюць паправак. Будзем старацца друкаваць. Талент маеце і трэба яго разьвіваць.

**Я. Кісялю:** Грошы атрыманы, ахвяра на бел. музэй перадана.

**Ужо прыгатоўлены прэміі, якія будуць разлёсаваны між тых падпішчыкаў, каторыя аплацяць акуратна падпіску за „ШЛЯХ МОЛАДЗІ“ на 1938 г. у суме 2 зл. і 50 гр.**

## ПЕРШАЙ ПРЭМІЯЙ БУДЗЕ РАДЫЁАПАРАТ.

**Апрача таго будзе разлёсавана: 10 бел. бібліятэчкаў, 5 гадавых падпісак на бел. літаратурна-навуковы час. «Калосьсе», 5 гадавых падпісак на гаспадарскі часапіс «Самапомач» і шмат іншых цэнных прэміяў. (Лёсаваньне адбудзецца сёлета ў кастрычніку месяцы).**

**Хто яшчэ падпіскі за 1938 г. не аплаціў, няхай зробіць гэта ў найбліжэйшым часе.**

*„Шлях Моладзі“ рэдагуе Рэдакцыйная Калегія. Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*

**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**

„ШЛЯХ МОЛАДЗІ“ выходзіць два разы ў месяц: 5 і 25. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар каэтатэкі „przekazu rozrachunkowego“ 59.

Выдавец: „БЕЛПРЭС“. Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.